# Дзярждэпартамент ЗША выказаў заклапочанасць у сувязі з арыштам Віктара Ганчара і членаў Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 37 (619)**
Аўторак, 2 сакавіка 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў —

Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"




**Вашынгтон — Мінск**

*Джэймс ФОЎЛІ:*

## "Канстытуцыйныя разыходжанні — гэта прамы вынік незаконнага рэферэндуму 1996 года"

Сур'ёзную заклапочанасць у сувязі з арыштам 25 лютага ў Мінску беларускімі праваахоўнымі органамі старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Віктара Ганчара і 14 яе членаў выказаў Дзярждэпартамент ЗША ў распаўсюджанай адносна гэтага заяве.

На думку намесніка прэс-сакратара Дзярждэпартамента Джэймса Фоўлі, "канстытуцыйныя разыходжанні — гэта прамы вынік незаконнага рэферэндуму 1996 года". Прадстаўнік знешнепалітычнага ведамства ЗША нагадвае, што ЗША, Еўрасаюз, АБСЕ, а таксама іншыя прадстаўнікі міжнароднай супольнасці не прызналі вынікаў рэферэндуму. Нягледзячы на гэта, прэзідэнт Лукашэнка выкарыстаў яго вынікі "для пашырэння сваіх паўнамоцтваў і прадаўжэння яшчэ на два гады свайго знаходжання на пасадзе".

На думку афіцыйнага Вашынгтона, Беларусь можа вырашыць канстытуцыйны крызіс "шляхам усталявання па-сапраўднаму дэмакратычнага палітычнага працэсу, у якім змаглі б узяць удзел усе элементы грамадства, уключаючы апазіцыю". Першым крокам у дадзеным накірунку мог бы стаць перагляд заканадаўства аб выбарах у мясцовыя органы ўлады ў адпаведнасці з рэкамендацыямі місіі АБСЕ ў Мінску. Тым больш, што, як адзначае Дзярждэпартамент, на працягу цэлага года гэтыя магчымасці не былі скарыстаныя, "паколькі кіраўніцтва краіны праігнаравала заканадаўчыя рэкамендацыі місіі АБСЕ і спробы па наладжванні дыялогу".

Дзярждэпартамент ЗША заклікаў беларускае кіраўніцтва сумесна з дэмакратычнай апазіцыяй распачаць пошук выйсця з працяглага канстытуцыйнага крызісу.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

## Лідэр АГП заклікае міжнародную грамадскасць "заявіць рашучы пратэст супраць беззаконня і парушэння правоў чалавека на Беларусі"

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч рашуча асудзіў дзеянні беларускіх улад у дачыненні да членаў Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

"Аляксандр Лукашэнка, — паведамляецца ў адпаведнай заяве лідэра АГП, — адмаўляецца праводзіць выбары і спасылаецца на вынікі рэферэндуму 1996 года, па якім ягоныя паўнамоцтвы быццам бы працягнутыя на два гады". Пры гэтым С.Багданкевіч нагадвае, што "у сувязі са шматлікімі грубымі парушэннямі заканадаўства вынікі рэферэндуму не былі прызнаныя аніводнай дзяржавай, акрамя Расіі".

Пасля прызначэння Вярхоўным Саветам Беларусі даты выбараў прэзідэнта на 16 траўня 1999 года, адзначаецца ў заяве, "службовыя асобы неаднаразова выказвалі пагрозы ў адрас членаў Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта", а 25 лютага перайшлі да рашучых дзеянняў.

З гэтай нагоды лідэр АГП звяртаецца да дружалюбных палітычных партый іншых краін, парламентарыяў і міжнароднай грамадскасці "з заклікам заявіць свой рашучы пратэст супраць беззаконня і парушэння правоў чалавека на Беларусі".

**Наталля КУЛАГІНА.**

## Савет бяспекі ААН прыняў заяву ў сувязі з ростам колькасці грамадзянскіх асобаў, якія гінуць ва ўзброеных канфліктах

Выказваючы занепакоенасць у сувязі з павелічэннем колькасці грамадзянскіх асобаў, якія гінуць ва ўзброеных канфліктах, Савет бяспекі ААН цвёрда асудзіў факты наўмыснага выбару ў якасці цэляў для знішчэння грамадзянскіх асобаў і запатрабаваў пакласці канец гвалту.

У заяве старшыні Савета бяспекі ААН, міністра замежных спраў Канады Лойда Эксворсі гаворыцца, што Савет асуджае спробы распальвання гвалту ў дачыненні да грамадзянскіх асобаў і заклікае дзяржавы выконваць свае абавязкі па прыняцці адпаведных дзеянняў на нацыянальным узроўні.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

## Заява Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва"

Фашызм нахабна, здзекуючыся з памяці мільёнаў загубленых ім людзей, крочыць па шматпакутнай зямлі Беларусі. На гэты раз ён прыйшоў да нас з Расіі.

На дамах нашых гарадоў беспакарана малююцца фашысцкія лозунгі. Малойчыкі са свастыкай на рукаве адкрыта распаўсюджваюць фашысцкую прапагандысцкую літаратуру і ўлёткі.

Ім не трэба рэгістравацца ў Міністэрстве юстыцыі, падаваць заяўкі на дазвол пікетаў, шэсцяў і мітынгаў. Іх не збівае міліцыя і АМАП, не цягнуць у пастарунак, не штрафуюць, не кідаюць у турмы і кпз.

Захвочаныя патураннем дзяржаўных праваахоўчых органаў, рускія фашысты перайшлі ўжо да збівання беларускіх грамадзян — як цывільных, так і вайсковых. І пачалі яны свой рэванш злавесна і шматзначна сярод белага дня, у цэнтры Мінска, непадалёку ад абеліска ў гонар перамогі над фашызмам.

У Гродна фашыстоўскія арганізацыі РНА адкрыта распаўсюджваюць свае друкаваныя матэрыялы на вуліцах, закідваюць іх у паштовыя скрыні. Фашызм паўзе на Беларусь. А гарадзенскія ўлады не толькі не змагаюцца з гэтым, а нават забараняюць грамадскім арганізацыям антыфашыстоўскія мерапрыемствы. Так, гродзенскі гарвыканкам забараніў БНФ "Адраджэньне", Маладому фронту і Маладой Грамадзе запланаваныя на 27 лютага пікеты пад лозунгам "Не — фашызму на Беларусі".

Гэтыя падзеі выразна паказваюць усім, нават самым недасведчаным, куды вядзе Беларусь сённяшні пануючы рэжым, што чакае беларускае грамадства, калі Лукашэнку ўдасца ажыццявіць свой д'ябальскі план разбурэння беларускай дзяржаўнасці.

У сувязі з гэтым, мы, грамадскія і палітычныя арганізацыі Гродзеншчыны, аб'яднаныя ў каардынацыйным камітэце "Гродзенская ініцыятыва", заяўляем:

Фашызм, незалежна ад нацыянальнай афарбоўкі, — гэта небяспека для ўсіх нас, для Беларусі, для Еўропы, для ўсяго свету.

Патуранне беларускіх улад рускаму фашызму надае гэтаму рэжыму фашызоідны характар і выкрэслівае яго з ліку цывілізаваных.

Прыхаваныя дзеянні ўладных структур, скіраваныя на культываванне фашызму на Беларусі, не дасягнуць сваёй мэты. Яны не перашкодзяць кансалідацыі грамадства на грунце непрыняцця рэжыму Лукашэнкі, а толькі ўзмоцняць нашу рашучасць змагацца за дэмакратычную незалежную Беларусь.

Мы заклікаем усе дэмакратычныя сілы, усе арганізацыі нацыянальных меншасцяў цясней згуртавацца ў барацьбе з фашызмам.

## Па даных сацапытання, 55 працэнтаў беларускіх жанчын гатовы ўдзельнічаць у законных акцыях пратэсту супраць беднасці

Падчас даследавання становішча жанчын-маці, якое ў снежні 1998 — студзені 1999 года правялі супрацоўнікі інфармацыйна-аналітычнага цэнтра Савета федэрацыі прафсаюзаў Беларускай і Савета беларускай партыі жанчын "Надзея", рэспандэнтам было прапанавана адказаць на пытанне "ЦІ ПАТРЭБНЫЯ АКТЫЎНЫЯ ВЫСТУПЛЕННІ СУПРАЦЬ БЕДНАСЦІ?". Пераважная большасць (84 працэнты) апытаных жанчын адказалі на гэтае пытанне станоўча. Астатнія (16 працэнтаў) выказаліся супраць падобных выступленняў.

На пытанне "ЦІ ГАТОВЫ ВЫ САМІ ЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У ЗАКОННЫХ АКЦЫЯХ ПРАТЭСТУ?" больш за палову (55 працэнтаў) з 580 апытаных адказалі "так". Астатнія рэспандэнты або не гатовыя асабіста ўдзельнічаць у законных акцыях пратэсту супраць беднасці, або не змаглі адказаць на прапанаванае пытанне.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ.**

**Факт**

*Заместитель премьер-министра Беларуси Г.Новицкий доложил главе государства о ходе выполнения государственной инвестиционной программы в области жилищного строительства. По итогам беседы президент высказал уверенность в том, что уже в ближайшем будущем каждый житель Минска и республики в целом сможет получить отдельную благоустроенную квартиру. Также вице-премьер Новицкий выслушал президентские рекомендации, направленные на ужесточение правил поведения субъектов на рынке жилья.*

*Комментарий*

*Михаил ПОДОЛЯК*

## Бесплатные квартиры только для избранных

В подобной уверенности президента отчетливо улавливаются знакомые многим "квартирные" мотивы середины 80-х годов. Именно тогда другой президент — Михаил Горбачев — уверенно продекларировал, что 2000-й год все мы сможем встретить в собственных отдельных квартирах. Не получилось. В столицах практически всех республик СНГ все еще достаточно "коммунального" жилья, а доля тех, кто по-прежнему не имеет собственного угла, достигает 25—30 процентов от общей численности жителей мегаполисов.

Помимо прочего, доля государственных денег в жилищном строительстве постепенно сокращалась, и, таким образом, основная финансовая нагрузка ложилась на плечи потенциальных квартиросъемщиков. По сути, государство предложило своим гражданам самостоятельно заботиться о жилье. Но оказалось, что только 5—10 процентов трудоспособного населения способны обеспечить себя и свои семьи приличным жильем. Впрочем, наличие денег зачастую не гарантировало получение пристойной квартиры. Рынок жилищного строительства, да и рынок готового жилья, практически полностью был отдан на откуп криминальным структурам. Достаточно вспомнить шумные квартирные махинации, в центре которых оказывались высокопоставленные чиновники (Ю.Малумов, В.Хилько), крупные банковские структуры (Сбербанк), многочисленные маклерские конторы.

Сегодня ситуация кардинальным образом изменилась. И вот что интересно. Если наши российские соседи пошли по пути отделения жилищного рынка от государственного бюджета и таким образом резко сократили возможности для коррупции и чиновничьего беспредела, то Беларусь, напротив, все больше ужесточает государственное присутствие на квартирном рынке. Что лучше — судить рядовому потребителю.

Ни для кого не секрет, что сегодня у государства попросту нет свободных денег, чтобы строить бесплатное жилье и раздавать его всем желающим. Бюджет едва справляется с выплатами заработных плат бюджетникам, с расходами на поддержание приличного военного потенциала, с финансированием фундаментальной науки и популистских социальных программ. Особым довеском к бюджету выступают многомиллиардные дотационные выплаты по оплате коммунальных услуг.

По сути, квартира — это самая настоящая частная собственность. Человек имеет право не только владеть и распоряжаться этой собственностью по своему усмотрению, он должен сам решать вопросы по приобретению жилья. Естественно, государство может посодействовать в приобретении жилья только самым неимущим слоям населения. Для остальных же должен существовать рынок специальных кредитов — под небольшой процент на длительный промежуток времени. Залогом в этом случае выступает сама квартира. Собственно, для этого необходимо лишь специальное законодательство, рынок специализированных банков, гарантии государства.

Белорусские власти, по моему мнению, не намерены идти по пути превращения рынка жилья в перспективный и динамичный сектор. Чиновник из Совета Министров предложил программу усиления госконтроля за жилищным рынком. С чем, понятное дело, весьма легко согласился президент. По сути, белорусское государство взяло на себя обязанность обеспечить каждого белоруса достойным жильем. Только вот как оно это попытается сделать в условиях тотального финансового дефицита? Впрочем, скорее всего правительственную программу заботит проблема обеспечения дешевым жильем наиболее верных соратников по режиму. Квартира отныне превращается в средство поощрения наиболее отличившихся на ниве защиты нынешней государственности.

Государственная инвестиционная программа предполагает *перераспределение бюджетных средств, сокращение количества строительных объектов, концентрацию денег вокруг объектов социального назначения, сокращение объемов незавершенного строительства.* На деле все это означает падение объемов именно жилищного строительства — очереди жаждущих получить жилье (и без того не продвигающиеся вперед) окончательно замрут. Бюджетные же деньги будут аккумулироваться только на тех объектах, которые можно сдать в эксплуатацию с большой помпой — стадионы, спортивные площадки, торговые площади. С другой стороны — предполагается консервация некоторых долгостроев. Вроде бы неплохо. Но окажется, что расходы на содержание подобных законсервированных объектов лягут опять-таки на плечи рядовых налогоплательщиков.

Впрочем, государственная программа предполагает еще ряд репрессивных мер, способных полностью разрушить не только квартирный рынок, но и национальную строительную индустрию в целом. Так, президент Лукашенко порекомендовал авторам программы *"сделать упор на всемерном сбережении и экономии средств, сдерживании цен в строительстве и повышении его качества"*. За счет чего можно экономить в строительстве? Прежде всего — за счет сокращения оплаты труда строителей либо за счет замены высококачественных строительных материалов более дешевыми, но менее качественными, либо переложив львиную долю финансовой нагрузки опять же на наши плечи. О качестве подобного жилья говорить не приходится.

Понятно, что подобная практика государственного управления рынком жилищного строительства скорее всего приведет к дальнейшей стагнации строительной индустрии в целом, консервации массового жилищного строительства, резкому вздорожанию цен на метр новой жилой площади. Вдобавок белорусский строительный бизнес потеряет многих лучших профессионалов, и без этого уже сегодня косяками направляющихся в соседние Россию и Прибалтику.

Что ж, белорусскому государству катастрофически не хватает денег...

**Зеркало**

## Не купить ли бутылочку коньяка за 78 миллионов "зайчиков"?

К сверкающему огнями "Престон-маркету", что в Минске на улице М.Богдановича, 153, подкатывали "Мазды", "Мерседесы", "Вольво", другие иномарки. Выходившие из машин в дорогих шубах, дубленках и пропитках, не задерживаясь, направлялись в один из самых дорогих магазинов столицы. Вместе с ними заглянула и я.

Представляю, как сглотнет слюну читатель в провинции, в глухой деревушке, который питается в основном картошкой с молоком, когда я начну рассказывать об изобилии продуктов "Престон-маркета". Но не обессудьте, пишу о том, что видела. Вот излюбленные напитки некоторых: "Черносмородиновой почкой пахнет, будто весной под кустом лежишь!" — говорит парень с длинными кудрями до плеч. Черносмородиновый напиток тянул больше двух миллионов, вишневый — цвета рубина, вкуса спелой вишни — под три, шампанское от 830 (белорусское) до восьми миллионов итальянское. Коньяки — от 25 до 78 миллионов.

— Покупает ли кто эти напитки? — спросила я у продавца, — или на них больше глазеют, как в музее?

— Покупают, но и рассматривающих цены тоже хватает.

В "Престон-маркет" заходят и бедняки. Чтобы не отставать от жизни: здесь всегда в курсе взлета и падения доллара, а от этой зеленой бумажки, пущенной на рынок в качестве товара, многие наши беды. К тому же кто откажется бесплатно поглядеть, как живут сильные мира сего? Привлекает магазин и тем, что даже при острейшем дефиците сметаны, сыра и масла они тут есть. Здесь вкусный и недорогой хлеб и это прельщает людей несостоятельных, которые, несмотря на дороговизну, заходить сюда не боятся.

В "Престон-маркете" нет дефицита. Даже акульи плавники, о которых больше говорят, как о средстве от рака, здесь имеются. Правда, на рыбный прилавок глянешь и зажмуришься. 768 тысяч стоят шпроты, 660 тысяч селедка. О семге и копченом палтусе не говорю. Утешает лишь, что и богатые, жующие акульи хрящи и плавники, болеют точно так же, как бедняки, сидящие на хлебе, картошке и капусте.

Почти 14 миллионов стоит кастрюля, 12 миллионов — набор кастрюлек из оргстекла. Макаронные изделия — от 60 тысяч до 304. Килограмм картофеля фри — 1 миллион 688 тысяч. Растительное масло — от 510 тысяч до 1 миллиона 249 тысяч 500 рублей. Поджаришь на таком маслице картошку фри и есть расхочется. А может, это просто привычки небогатого человека срабатывают во мне?

Я испеку коржи для торта из обычной муки, и он будет не хуже магазинного, а если кому-то созданы другие условия для жизни, почему бы и не купить заготовку для торта за 1 миллион 533 тысячи? Правда, к торту нужен чай или кофе. Мы пьем чай, который в народе окрестили "пылью индийских дорог" или "грузинским веником" (теперь за 160—180 тысяч пачка), а здесь такой даже не рискнули поставить на прилавок, чтобы не осрамиться. Ароматизированные чаи стоят более полутора миллионов за пачечку. На кофе и глаза не глядят — дорого: от миллиона до шести. Так что прощай, "Чибо"!

Можно выпить и "Spreit", мы люди не гордые, но эта золотая вода компании Coca-Cola, сделавшая ее миллиардером, "кусается" — 358 тысяч за бутылку.

Ладно, перейдем к колбасному прилавку. Посмотрим, что предлагают на бутерброд: колбаса праздничная — 3 миллиона 675 тысяч за кило, шинка по-белорусски — 1 миллион 568 тысяч, карбонат — 1 миллион 661 тысяча. Есть колбасы и подешевле, но заветренные, усохшие, чувствуется, что лежат давно.

Хотя глазеющих здесь больше, чем покупающих, магазин не в убытке, богатая часть общества (как уверяют нас социологи — всего 2 процента населения) считает ниже своего достоинства отовариваться в других универсамах. Такой вот менталитет. И потом, где еще увидишь такие пиццы в несколько ярусов, с начинкой из мяса, рыбы, свежих грибов, цыплят и дичи всех сортов.

Да, Россия и Беларусь знали богатых людей — сплошные дворяне: Долгорукие, Долгоруковы, Голицыны, Урусовы, Горчаковы, Шаховские, Мятлевы, Радзивиллы, Огинские. Как величают нынешних, кто знает? Ведь те, прежние, имели еще и богатство духа, оттого и занимались благотворительностью, помогали бедным, строили храмы, создавали картинные галереи, собирали уникальные библиотеки, как купец Алексей Хлудов. Чем прославились богачи нынешние, которых классик еще в прошлом веке нарек Солодовниковыми, Цыплаковыми, Шелапутиными, Обидиными, Ляпиными? На каком таком деле заработали они свои состояния, побогатели ль духом, есть ли свидетельства щедрости их сердца? Зато дельцы от бизнеса отлично знают страсть таких людей к куражу, выпендрёжу, бахвальству. И мгновенно создали ряд магазинов, в которых "новые белорусы" могли бы чувствовать себя, как на Западе, да и собственную персону показать. Комитет цен над ними не властен, он просто их не замечает, как, впрочем, и других с каждым днем растущих цен. Нереальный, перевернутый мир, в котором живут нищие белорусские миллионеры. Миллионы на руках, а купить за них нечего. Неделю продержаться на плаву нельзя. Многие скажут: разве наша в том вина, что мы не может отличить рябчика от куропатки? Что стараемся держаться гордо, хотя сюртук долгопол, а сапоги бутылками? Что денежный штраф стал хуже ареста, а отказ от места работы — смертной казнью? Что на масленицу не видим блинов, а откровенно голодающих уже потихоньку провожают на кладбище? Отвечу: есть в том и наша вина. Мы преступно молчим и терпим все, что с нами вытворяют. И, похоже, терпение глядеть на все это зазеркалье еще не иссякло. Великий Леонардо говорил: "Терпение для оскорбленных подобно теплой одежде для зябнущих. Удвой одежду и не почувствуешь холода". Вот только как удвоить? За что?

**Лилия ЛОМСАДЗЕ.**

## З сярэдзіны лютага пастаўкі расійскага газу на Беларусь зніжаны прыкладна на 30 працэнтаў

Запазычанасць Беларусі за пастаўлены з Расіі газ некалькі знізілася ў студзені, але цяпер зноў перавысіла 230 мільёнаў долараў ЗША — аб гэтым БелаПАН паведаміў прадстаўнік упраўлення па пастаўках расійскага ААТ "Газпрам" Анатоль Падмышальскі.

Ён адзначыў, што з сярэдзіны лютага пастаўкі газу на Беларусь зменшыліся прыкладна на 30 працэнтаў. Магчымы і далейшыя абмежаванні, калі бакі не змогуць дамовіцца. Размова ідзе аб поўнамаштабным пагадненні аб пастаўках прыроднага газу на 1999 год, якое дагэтуль не падпісана. Як вядома, беларускі бок настойвае на тым, каб пастаўкі ажыццяўляліся па ўнутрырасійскіх цэнах, матывуючы гэта двухбаковым пагадненнем аб роўным правах суб'ектаў гаспадарання, якое было падпісана ў Маскве ў снежні 1998 года.

Аднак дадзенае пытанне, адзначыў прадстаўнік "Газпрама", можна вырашыць толькі спецыяльнай пастановай урада Расіі, што вельмі малаверагодна, паколькі ўсе падаткі ад экспартнай выручкі "Газпрама" ужо закладзены ў нядаўна прыняты федэральны бюджэт Расіі.

**Юрый ТУРЫЛАЎ.**

**Ну и ну!**

## Председатель Белорусского союза офицеров генерал Иванов объявил о коричневом терроре

21 февраля в столичном парке имени Горького Белорусский союз офицеров проводил митинг по случаю Дня защитника Отечества. Ведущий, генерал-лейтенант Д.Иванов, отметил, что жизнь наша с каждым годом становится все хуже и хуже. Но виноват в этом, по словам генерала, не всесильный глава белорусского государства, а... Семен Шарецкий, фактической власти в государстве не имеющий.

Подполковник Антонов, секретарь Первомайского райкома чикинских коммунистов, в своем выступлении поддержал требования Свободного профсоюза о реальной заработной плате, которая была в годы Советской власти (не менее 100 долларов в месяц. — **В.А.**). Полковник Чайка и генерал Баранкевич выступили с резким осуждением деятельности президента России Бориса Ельцина.

Кульминацией воскресной политической акции стало встреченное бурными продолжительными аплодисментами участников митинга заявление генерала Иванова об объявлении в стране бело-красно-коричневого (!) офицерского террора против тех граждан Беларуси, которые хотят воспользоваться своим конституционным правом выбирать главу государства.

В истории Беларуси уже были и белый, и красный, и коричневый террор. Правда, по отдельности. Что ж, переживем и комплексный бело-красно-коричневый террор Иванова, Баркашова, Баранкевича и иже с ними.

Присутствовавший на митинге представитель президентской вертикали Виктор Чикин на антиконституционное заявление генерала не отреагировал. А как посмотрит на высказанную белорусским гражданам угрозу Прокуратура республики?

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

МАЙ
16
ВОСКРЕСЕНЬЕ

ВЫБОР БЕЛАРУСИ ЗАВИСИТ ОТ ВАШЕГО ВЫБОРА

Пр. Марыяны, Фёдара.
К. Алены, Паўла, Радаслава, Сімпліцыя.

120 гадоў з дня нараджэння М. Б. Кроля (1879—1939), вучонага ў галіне неўрапаталогіі.

1 сакавіка споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння Е. Я. Лось (1929—1977), беларускай паэтэсы.

САКАВІК
2
'99 АЎТОРАК

Усход 6.57
Захад 17.49
Даўж. дня 10.52

Поўня 8.59
Захад 8.11
Усход 19.12

### Просім прабачэння

На вялікі жаль, у мінулым нумары ў заметцы "Буйныя міжнародныя арганізацыі выказалі заклапочанасць у сувязі з чарговым наступам беларускіх улад на СМІ" з-за тэхнічнага збою прапала літара "ў".

Просім у чытачоў прабачэння.

**Рэдакцыя.**

